Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Пятніца, 5 сакавіка 1999 г. № 25 (556) Кошт свабодны

*Дарагія жанчыны Беларусі! Вы самыя лепшыя і самыя каханыя! Колькі заўгодна часу пройдзе, што б ні адбылося, мы заўсёды будзем вас любіць і берагчы! Шчасця вам, здароўя і прыгажосці!*

*НАВІНЫ*

## Мільён за пунсовую ружу

**На 8 Сакавіка кветкі ў прыватным гандлі падаражэюць амаль у два разы**

Па словах дасведчаных людзей, у пачатку вясны кветкі даражэюць нават на галандскай біржы — рынак ёсць рынак. Ужо сёння адчуваецца перадсвяточны рост цэнаў на кветкі, а на свята, як кажуць прыватныя гандляры, цэны падскочаць. Давайце падлічым: апошнім часам у прыватнікаў ружы каштавалі ад 250 да 500 тысяч рублёў, гвазздзікі — 130—200, цюльпаны — каля 150, а самы танны аформлены букет прадаваўся не менш чым за мільён. Цяпер гэтыя лічбы давядзецца падвоіць. Такім чынам, віншаванне з кветкамі можа абысціся некаторым галантным кавалерам у месячную зарплату.

Значна дзешавей будуць каштаваць кветкі, вырашчаныя ў беларускіх цяпліцах. Як паведамілі нам у спецсаўгасе «Кветкі» (Мінскі раён), да свята гэтая гаспадарка накіруе ў сталічныя крамы 400 тысяч кветак, і кошты на іх будуць параўнальна нізкія: ружы можна будзе купіць за 170—320 тысяч рублёў, гвазздзікі — за 50—150, цюльпаны — за 90—130. Так што, як кажуць, «купляйце беларускае». Шкада толькі, што айчыннай прадукцыі на ўсіх не хопіць, дый па арганізацыі гандлю нашыя кветкаводы не могуць вытрымаць канкурэнцыі з прыватнікамі. Тысячы гандляроў у вялікіх і маленькіх гарадах Беларусі прадаюць з імправізаваных прылаўкаў і кіёскаў імпартныя кветкі, і гэты паток цяжка паддаецца ўліку ды падаткаабкладанню.

Дарэчы, днямі ў Магілёве гандляры кветкамі нават спынілі працу, каб давесці гарадскім уладам, што шматлікія праверкі (асабліва ў перадсвяточныя дні) моцна перашкаджаюць працаваць. «Кантралёры правяраюць кіёскі з кветкамі, размешчаныя блізу цэнтральнага рынку, трычатыры разы на дзень», — скардзяцца прадпрымальнікі. Яны прапануюць заплаціць падвышаны падатак — абы толькі на святы іх не «трэслі» праверкі. Гарадскія ўлады сцвярджаюць, што падчас «сакавіцкай ліхаманкі» на прылаўках з кветкамі часта з'яўляюцца незарэгістраваныя партыі «левага» тавару. Сёлета ў Магілёве канфлікт нейкім чынам удалася пагасіць, але ж праблема застаецца нявырашанай.

Чакаецца, што сёлета, як і заўсёды, у буйных гарадах Беларусі з'явяцца са сваімі кветкамі «паўднёвыя госці», якія ўвогуле будуць гандляваць з рук, а значыць, незаконна. Вось у каго тавар будзе самы танны — галінку каўказскай мімозы вам прададуць у падземным пераходзе за адну-дзве сотні тысяч рублёў. Часта ў чамаданах такіх гандляроў у Беларусь прыязджаюць рэдкія расліны, якія знаходзяцца пад аховай. Штогод такія факты фіксуюць супрацоўнікі аддзела запаведнай справы міністэрства прыродных рэсурсаў. Па іхніх словах, забараніць продаж рэдкіх раслінаў ці пакараць гандляроў паводле беларускага заканадаўства немагчыма. «Мы праводзім рэйды і адзінае, што можам — указаць грамадзянам на недапушчальнасць знішчэння выміраючых раслінаў», — кажуць эколагі. Нягледзячы на амаральнасць такога гандлю, «паўднёвых гасцей» у нас чакае цёплы прыём: беларусы ахвотна раскупяць іхні танны тавар.

**Ганна СЕНЕШ**

**Шаноўныя чытачы!**
**Наступны нумар газеты НАВІНЫ выйдзе ў сераду, 10 сакавіка.**

# Ганчар трымае галадоўку

**У сераду старшыня легітымнага Цэнтрвыбаркама Віктар Ганчар аб'явіў сухую галадоўку.**

Пра гэта паведаміў жонцы Ганчара і адвакату Гары Паганяйлу начальнік ізалятара на вуліцы Акрэсціна. Па яго-ных словах, В.Ганчар адмаўляецца ад медыцынскай дапамогі і патрабуе неадкладнага вызвалення.

Нагадаем, што В.Ганчар быў арыштаваны ў панядзелак і асуджаны Ленінскім судом на 10 сутак за «парушэнне парадку правядзення сходаў». З сакавіка Зінаідзе Ганчар дазволілі сустрэцца з мужам. Па яе словах, спатканне працягвалася некалькі хвілінаў. Старшыня ЦВК цвёрда намераны трымаць галадоўку, пакуль не вызваляць усіх асуджаных членаў Цэнтрвыбаркама. Як мы паведамлялі, да пяці сутак арышту прыгавораныя Барыс Гюнтэр і Аляксандр Гурыновіч, якія таксама адбываюць свой тэрмін у ізалятары на Акрэсціна.



Віктар Ганчар: «Вінаватыя адкажуць па закону!»

Зінаіда Ганчар лічыць, што вінаваты ў арышце яе мужа толькі прэзідэнт Лукашэнка, «раней па аўтамабілі Ганчара стралялі, а цяпер яго пасадзілі». Па словах жонкі, у невялікай бетоннай камеры з В.Ганчаром знаходзяцца яшчэ трое вязняў. Вядомыя палітыкі, а таксама пісьменнікі Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Янка Брыль накіравалі заяву кіраўніку місіі АБСЕ ў Мінску Хансу-Георгу Віку. Яны заклікаюць прадстаўнікоў АБСЕ «праверыць умовы ўтрымання ў турме аднаго з вядучых лідэраў беларускай апазіцыі Віктара Ганчара, а таксама ўстанавіць, ці падвяргаецца ён фізічнаму ці іншаму ўціску».

Міжнародная Ліга правоў чалавека выказала глыбокую занепакоенасць лёсам Віктара Ганчара, старшыні Цэнтрвыбаркама, які падчас адбывання адміністратыўнага арышту абвясціў сухую галадоўку.

Міжнародная Ліга правоў чалавека — амерыканская непалітычная праваабарончая арганізацыя, якая мае адмысловы статус кансультанта ААН. Ліст, падпісаны выканаўчым дырэктарам Лігі Кэрын Фітцпатрык, змяшчае рашучы пратэст супраць арышту Ганчара.

Праваабаронцы з Лігі правоў чалавека заклікалі Ганчара спыніць сухую галадоўку: «*...такія дзеянні наносяць найбольшую шкоду тым, хто мусіць цяпер ачольваць працяглую барацьбу за правы чалавека ў Беларусі. На жаль, такая непрымірымая пазіцыя робіць найбольшую шкоду сем'ям, дарагім нам людзям і нашым прыхільнікам, але не тым, хто стаў галоўнай прычынай парушэння правоў чалавека*». Ліга паабяцала падвоіць свае высілкі, каб прыцягнуць увагу грамадскасці да сённяшняга цяжкага становішча Ганчара, а таксама да становішча ўсіх тых, хто змагаецца за дэмакратыю і правы чалавека ў Беларусі.

Кэрын Фітцпатрык ад імя сваёй арганізацыі таксама заклікала Ханса-Георга Віка, кіраўніка Кансультатыўнай групы Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) у Беларусі, наведаць Віктара Ганчара ў турме і прасачыць, каб у дачыненні да старшыні ЦВК не парушаліся ніякія правы, але таксама патрабаваць неадкладнага і безумоўнага яго вызвалення.

Як паведаміў прэс-цэнтр Хартыі'97, старшыня АБСЕ, міністр замежных справаў Нарвегіі Курт Волебэк таксама выказаў вялікую заклапочанасць нядаўнім арыштам Віктара Ганчара і іншых членаў ЦВК: «*Арышты з'яўляюцца прычынай канстытуцыйных супярэчнасцяў паміж урадам Беларусі і апазіцыяй. АБСЕ працягвае настойваць, каб абодва бакі пазбягалі далейшай эскалацыі напружанасці і пайшлі на палітычны дыялог з мэтай знайсці выйсце з канстытуцыйнага крызісу ў Беларусі*».

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**
**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## З турмы – у бальніцу

У сераду член Цэнтральнай выбарчай камісіі Сяргей Абадоўскі, які адбываў адміністратыўнае турэмнае пакаранне ў мінскім спецпрыёмніку-размеркавальніку па вул.Акрэсціна, быў дастаўлены ў бальніцу «хуткай дапамогі» з дыягназам «востры гіпертанічны крыз». Пра гэта паведаміў прэс-цэнтр Цэнтрвыбаркама.

48-гадовы Сяргей Абадоўскі — актывіст Магілёўскага Свабоднага прафсаюза беларускага. Як мы ўжо паведамлялі, 1 сакавіка ён разам з трыма калегамі па Цэнтрвыбаркаме быў асуджаны да 5 сутак адміністратыўнага арышту за ўдзел у паседжанні камісіі 25 лютага. С.Абадоўскі у знак пратэсту супраць прысуду абвясціў галадоўку ў зале суда.

У бальніцы «хуткай дапамогі» С.Абадоўскаму аказалі тэрміновую медычную дапамогу, пасля чаго адпусцілі дадому. Яму засталося адсядзець за кратамі яшчэ два з паловай дні. Гэты тэрмін С.Абадоўскі павінен адбыць пасля таго, як стан ягонага здароўя палепшыцца.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Прэзідэнцкая лыжня

У суботу ў спартыўным комплексе Раўбічы рыхтуецца грандыёзнае свята — «Мінская лыжня». Прэзідэнт Лукашэнка збіраецца стаць на лыжы, каб падмацаваць свой фізічны і псіхалагічны стан. Усе сілы горада Мінска кінутыя на арганізацыю гэтай забавы, мэр Уладзімір Ярмошын асабіста кіруе аргкамітэтам.

Нагадаем, што ў мінулую суботу прэзідэнт асвойваў лядовую пляцоўку новага спартыўнага палаца, які адчыніўся ў Мінску на вуліцы Прытыцкага. Галоўны хакеіст краіны бегаў з клюшкай за шайбай. Вядома, што за гады свайго прэзідэнцтва спадар Лукашэнка асвоіў шмат якія віды спорту, а пачынаў ён, як вядома, з тэніса. На заўтрашняе гулянне ў Раўбічах кіраўніку краіны ўжо падрыхтавалі найлепшыя лыжы і суперновую спартыўную форму, каб прэзідэнт не прастудзіўся.

Усе раёны горада, а таксама Мінскі раён выстаўляць на лыжню свае каманды па 100 чалавек. Адміністрацыі раёнаў падбіраюць лыжнікаў, якіх даставяць на аўтобусах. Адна каманда будзе складацца з вайскоўцаў. Даўжэйшая лыжня (на 5 з паловай кіламетраў) падрыхтаваная для маладзейшых, а лыжня на 3 кіламетры, для тых, каму за 40.

Удзельнікаў забегу чакаюць прызы — спартыўныя сумкі коштам па 2 мільёны 700 тысяч рублёў. Праўда, гэтых сумак на ўсіх не хопіць. Адміністрацыі раёнаў прывязуць яшчэ і свае падарункі. На «Мінскай лыжні» ў Раўбічах выступяць розныя фальклорныя калектывы, а каб было яшчэ весялей, будуць смажыць шашлыкі і прадаваць спіртное. Нягледзячы на тое, што хрысціяне цяпер трымаюць Вялікі пост, у Раўбічах будзе надта весела.

**А.Д.**

# Лінг здае пазіцыі

**На пашыраным паседжанні Савета міністраў прэм'ер-міністр Сяргей Лінг выступіў супраць «голага адміністратыўнага падаўлення інфляцыі і працяглага замарожвання цэнаў».**

Кіраўнік урада незадаволены таксама «незбалансаваным абменным курсам». Гэтыя заявы Сяргей Лінг вымушаны быў зрабіць, каб атрымаць крэдыт ад Міжнароднага валютнага фонду.

Як нам паведамілі ў прэсслужбе Нацыянальнага банка, беларускі бок спадзяецца, што ў сярэдзіне сакавіка ў Мінск прыедзе чарговая, пятая па ліку, місія МВФ. Папярэдняя вывучала ў лютым грашова-крэдытную сферу нашай краіны. Як вядома, МВФ схіляў беларускі бок да скарачэння бюджэтнага дэфіцыту, лібералізацыі валютнай палітыкі і ўстанаўлення адзінага курса беларускага рубля. У Мінску эксперты МВФ пераканаліся, што курс на міжбанкаўскім рынку ўсталёўваецца па ўказанні Нацбанка. Місія МВФ паехала, і грошай Беларусі пакуль не далі.

МВФ патрабуе канкрэтных крокаў па рэфармаванні эканомікі. Толькі пасля гэтага беларускі ўрад можа разлічваць на так званы надзвычайны кампенсацыйны крэдыт у 100 мільёнаў долараў. Каб атрымаць гэтыя грошы, прэм'ер-міністр Сяргей Лінг пачаў прызнаваць свае ранейшыя памылкі. Але ці хопіць гэтага для МВФ?

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Паветраны госць нарабіў страху

У аўторак увечары беларускія войскі супрацьпаветранай абароны былі прыведзеныя ў баявую гатоўнасць. У паветра нават паднялі самалёт-знішчальнік МІГ-29. Прычынай перапалоху стаў невялікі паветраны шар, які апоўначы перасек дзяржаўную мяжу Беларусі з боку Літвы.

Беларускі штаб супрацьпаветранай абароны атрымаў ад калегаў з Калінінградскай вобласці Расіі інфармацыю, што ў бок Беларусі на вышыні 9 тысяч метраў рухаецца невядомы аб'ект. Па трывозе на цэнтральны камандны пункт войскаў СПА прыбыла спецыяльная група пад кіраўніцтвам камандуючага генерала Валерыя Кастэнкі. Дзеля таго, каб апазнаць аб'ект, з аэрадрома ў Асаўцы Брэсцкай вобласці ўзляцеў знішчальнік. Аднак хутка высветлілася, што шарык ніякай пагрозы для дзяржаўных інтарэсаў РБ не ўяўляе. На працягу адной гадзіны ён перасек тэрыторыю Беларусі і знік за мяжою Украіны. Украінскія сродкі СПА канчаткова згубілі яго з віду раніцай над Чорным морам у раёне Крыма.

Цікава, што прадстаўнікі штаба супрацьпаветраных войскаў Беларусі па-рознаму каментавалі гэтае здарэнне. Так, аператыўны дзяжурны паведаміў нам у сераду, што нічога надзвычайнага не здарылася, ніякая трывога не аб'яўлялася і наогул «падобныя шарыкаў у паветры, у тым ліку і над Беларуссю, лятае шмат». А вось камандуючы войскамі супрацьпаветранай абароны Валерый Кастэнка заявіў, што падобныя шары з'яўляюцца над нашай тэрыторыяй зусім невыпадкова. Маўляў, ёсць на Захадзе адпаведныя сілы, якія падобным чынам часта спраўджваюць гатоўнасць беларускіх сродкаў супрацьпаветранай абароны.

А вось нашыя суседзі адрэагавалі на з'яўленне «шарыка» зусім па-іншаму. Міністр абароны Літвы генерал Ёнас Андрышкявічус паведаміў нам, што ні аб чым падобным ён не чуў, і падзякаваў карэспандэнту НАВІНАЎ за прадастаўленую інфармацыю.

Па словах супрацоўнікаў міністэрства абароны Украіны, наземныя сродкі супрацьпаветранай абароны засяклі над сваёй тэрыторыяй гэты шар, аднак спецыяльную баявую гатоўнасць украінскія вайскоўцы таксама не аб'яўлялі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Татары просяць дапамогі

Прэзідэнт беларускага аб'яднання татараў-мусульманаў «Аль-Кітаб» Абу-Бекір Шабановіч перадаў ліст міністру нацыянальнай палітыкі Расіі Рамазану Абдулаціпаву. У ім мусульмане просяць расійскі бок дапамагчы ў будаўніцтве новых мячэцяў у Віцебску, Гродне, Магілёве, Оршы і іншых гарадах.

Не стае таксама сродкаў на рэстаўрацыю старадаўніх мячэцяў — Даўбуцішскай і Лоўчыцкай у Гродзенскай вобласці. Беларускія мусульмане просяць расійскага міністра аказаць падтрымку ў стварэнні мінскага цэнтра культуры татараў, дзе плануецца адчыніць нацыянальную школу, бібліятэку, размясціць муфціят, канцылярыю «Аль-Кітаба», рэдакцыі татарскіх перыядычных выданняў. Спадар Шабановіч сказаў, што давамова аб супрацоўніцтве Беларусі і Расіі павінна напаўняцца «канкрэтным зместам».

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Тамара Віннікава: «Хатні арышт пагражае майму жыццю»

Былая старшыня Нацбанка хутчэй за ўсё сустрэне свята жанчын у рэанімацыйным аддзяленні вайсковага шпіталя. Тамара Віннікава трапіла туды 3 сакавіка з дыягназам «фізічнае і псіхічнае знясіленне» і знаходзіцца зараз у спецыяльнай палаце пад аховай. А днём раней яна звярнулася з лістом у Беларускі Хельсінкскі камітэт па дапамогу. Былая банкірка сцвярджае, што ўсе магчымасці па абароне ад свавольства следства яна вычарпала, між тым далейшае знаходжанне пад хатнім арыштам пагражае яе жыццю.

У двухгадовай гісторыі пакутаў калісьці самай прыгожай жанчыны ў беларускім кіраўніцтве перыяд яе хатняга арышту найбольш паказальны. Справа ў тым, што беларускім заканадаўствам хатні арышт як прэвентыўная мера ўвогуле не прадугледжаны. Між тым з лістапада 1997 года, пасля вызвалення з ізалятара КДБ, дзе Віннікаву пратрымалі амаль 10 месяцаў, яна фактычна знаходзіцца менавіта ў стане арыштаванай. Мяркуйце самі. У яе кватэры дзень і ноч дзяжураць супрацоўнікі Упраўлення аховы дзяржаўных установаў, яны ні на хвіліну не выпускаюць Віннікаву з дому і «фільтруюць» усіх яе наведвальнікаў. Нават калі звоніць тэлефон, трубку падымаюць спачатку міліцыянты, якія і вырашаюць, будзе Віннікава размаўляць ці не. Міліцыя ж правярае і ўсе прадукты, якія дастаўляюць у кватэру. Што гэта, як не арышт?



*Тамара Віннікава (здымак з архіва).*

Праўда, пракуратура Беларусі вуснамі яе кіраўніка Алега Бажэлкі па-іншаму трактуе ўтрыманне Віннікавай у хатніх умовах пад вартай. *«Віннікаву ахоўваюць ад магчымых замахаў на яе жыццё, гэта ніякі не арышт»*, — заяўляў Алег Бажэлка. У нечым з генпракурорам можна пагадзіцца. Сапраўды, Віннікаву не столькі арыштавалі, колькі захапілі ў закладнікі і слай трымаюць, як у той жа Чачні. Толькі там ахвяраў трымаюць у зямлянай яміне, а ў Мінску — у кватэры на вуліцы Адзінцова. І ролю бандытаў баевікоў у нас выконваюць ветлівыя супрацоўнікі аховы дзяржаўных установаў. Вось і ўся розніца.

Колькі гэтае беззаконне можа працягвацца? Як лічаць дактары, якія неаднаразова аглядалі Віннікаву, не вельмі доўга. Гучыць безлітасна, але факт: у мінулым годзе ў Віннікавай знайшлі анкалагічнае захворванне, яе можа выратаваць толькі хірургічнае ўмяшальніцтва, лічаць незалежныя эксперты. Без аперацыі жанчына стане інвалідам, альбо... Аднак патрэбную ёй аперацыю можна зрабіць толькі ў 8-ым клінічным шпіталі, а там, сцвярджае следства, няма ўмоваў на размяшчэнне аховы. У выніку вось ужо другі год Віннікавай адмаўляюць у лячэнні на базе 8-ай клінікі і фактычна пакідаюць яе паміраць у сваёй хаце. Напрыканцы студзеня адвакат Людміла Ульяшына звярнулася з чарговай скаргай на ўтрыманне Віннікавай пад хатнім арыштам у пракуратуру Беларусі і Фрунзенскі раённы суд Мінска. У пракуратуры краіны адвакату адказалі, што яе скарга не можа быць задаволеная, і паведамілі, што ў суд скаргу нават не перадавалі.

*«Звяртаем увагу грамадскасці Беларусі і ўсяго свету на тое, што ўладамі Беларусі парушаецца права Тамары Віннікавай на ахову здароўя. Жорсткае абыходжанне з ёй мы лічым катаваннем, якое пагражае жыццю»*, — заяўляе Беларускі Хельсінкскі камітэт.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Минск приглашает Москву на Балканы

### *Российское оружие может попасть в Югославию без ведома его создателей*

Переговоры в Минске с министром иностранных дел Союзной Республики Югославия Живадином Йовановичем могут ударить рикошетом по международному имиджу Москвы. Как признавался накануне их начала белорусским журналистам председатель комиссии по международным делам палаты представителей республики Александр Козырь, *«переговоры будут вестись, кроме всего прочего, о возможных поставках вооружения»*. В первую очередь предназначенных для отражения воздушной угрозы со стороны авиации Североатлантического альянса. При этом вряд ли нужно пояснять, в какой именно стране производится оружие, имеющееся ныне в распоряжении Белоруссии.

Сами по себе российско-белорусские связи в военной области абсолютно легитимны и «прозаичны».

В последнее время активно восстанавливается и порушенная было кооперация военно-промышленных комплексов двух стран. Ряд новейших программ перевооружения российской армии (в том числе и ракетными комплексами нового поколения) попросту невозможен без участия в них белорусских коллег. Наглядным подтверждением этому является прошлогодний указ президента РФ Бориса Ельцина о награждении российскими орденами 17 работников Минского завода колесных тягачей «за большой вклад в создание специальной техники». В свою очередь, белорусский президент Александр Лукашенко в ходе своих визитов в российские регионы не упускает возможности побывать на ведущих оборонных предприятиях. Последний тому пример — его февральский визит в Удмуртию, с которой Беларусь связывает несколько крупных контрактов в оборонной области. Два из них были заключены с Ижевским электромеханическим заводом — известнейшим в России разработчиком и производителем систем ПВО сухопутных войск.

Кстати, это уже далеко не первое подтверждение того, что Беларусь проявляет особое внимание именно к средствам ПВО. В минувшем году Ульяновский механический завод (УМЗ) совместно с белорусским предприятием «Минатор-сервис» приступил к программе модернизации зенитных самоходных установок «Шилка» (презентация новинки пройдет через неделю на международном салоне в Абу-Даби). Специалисты тульского КБ приборостроения трудятся по заказу белорусской армии над модернизацией знаменитого зенитного пушечно-ракетного комплекса «Тунгуска», а то же УМЗ готовит для нее обновленные ЭРК «Бук».

Официальный Минск объясняет свой повышенный интерес к системам противовоздушной обороны нынешней ситуацией на Балканах: действительно, с просьбой о модернизации всех составляющих ПВО Беларуси Минск обратился после прошлогодних угроз нанесения ракетно-бомбовых ударов *NATO* по Югославии. Россия охотно откликнулась на эту просьбу — ведь страны объединяет, кроме всего прочего, интегрированная система совместной противовоздушной обороны. Тем не менее, до сих пор не существует официальных подтверждений того, что от Минска получены твердые гарантии не заниматься реэкспортом российского оружия. Известно, что переговоры на сей счет велись в Минске в мае прошлого года между Александром Лукашенко и возглавлявшим тогда государственную компанию «Росвооружение» Евгением Ананьевым, однако об их итогах ничего не сообщалось.

По мнению экспертов, Беларусь — чрезвычайно активный «новичок» на мировом рынке вооружений. Еще несколько лет назад она вообще не фигурировала в международных регистрах, и вдруг по итогам продаж за 1996 год вошла в престижную десятку мировых лидеров в области оружейного экспорта.

*«Известия»*

## Вобыскі ў Гродне

**2 сакавіка супрацоўнікі Гродзенскай пракуратуры, міліцыі і Камітэта дзяржбяспекі правялі вобыскі ў рэдакцыі мясцовай газеты «Пагоня», офісе грамадскай арганізацыі «Ратуша» і лялечным тэатры.**

На працягу дзвюх гадзінаў прадстаўнікі праваахоўных органаў абшуквалі рэдакцыю гродзенскай незалежнай газеты «Пагоня». У першую чаргу сышчыкаў цікавілі інфармацыйныя матэрыялы, звязаныя з правядзеннем выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, прызначаных Вярхоўным Саветам. Яны канфіскавалі рэдакцыйную пошту, архіўныя дакументы, а таксама матэрыялы, датычныя дзейнасці розных палітычных арганізацыяў.

У гродзенскім аб'яднанні «Ратуша» вобыск правяла пракуратура Ленінскага раёна Гродна. Супрацоўнікі пракуратуры дзейнічалі на падставе крымінальнай справы аб зняважэ гонару і годнасці прэзідэнта Лукашэнкі, што была заведзеная па факце з'яўлення зборніка карыкатураў Алеся Сурава «У пагоню!», у якім, на думку пракурораў, ёсць малюнкі, што трапляюць пад аднайменны артыкул.

Што ж гэта за «небяспечныя» карыкатуры? Напрыклад, стаіць вядомы літаратурны герой Астап Бэндэр з чамаданчыкам «міжнароднага валютнага фонду» і пытае ў свайго сябра Шуры Балаганава: «Шура, колькі вам трэба грошай для поўнага шчасця?» Або — выява герба, на якой за вяршніка на кані сядзіць амонавец з дубінай. Подпіс: «Новая геральдыка: традыцыі і сучаснасць».

У выніку вобыску было канфіскавана некалькі экземпляраў зборніка карыкатураў «У пагоню!», брашура спікера Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага «Трагедыя Беларусі», а таксама пратакол паседжання камісіі па выбарах прэзідэнта Беларусі. Аналагічны вобыск быў таксама праведзены ў гродзенскім тэатры лялек, што абурыла ўсю тэатральную трупу.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Віцебск пабагацеў на мільёны долараў

**У некалькі мільёнаў долараў ацэньваецца калекцыя твораў Марка Шагала, якую перадала роднаму гораду мастака Віцебску ягоная ўнучка Іда Шагал разам з некалькімі заходнімі калекцыянерамі.**

Нагадаем, што творчасць М.Шагала ў савецкія часы лічылася шкоднай, і таму ў Беларусі не захавалася ніводнага ягонага твора. Толькі ў 1990-я гады нашая краіна як радзіма сусветна вядомага мастака-мадэрніста пачала атрымліваць у дар творы Шагала, у асноўным — друкаваную графіку. Цяпер Віцебску належаць больш за 70 твораў Шагала. Амаль усе яны — 72 гравюры — прадстаўленыя ў пастаяннай экспазіцыі віцебскага музея Шагала. Не стае толькі некалькіх твораў, згаданых у спісе дароў доктара Мандэля: іх таямнічае знікненне было выяўлена больш за год таму. Далейшы лёс бясцэнных рарытэтаў не высветлены.

*БелаПАН*

## Завод спыніўся без святла

Завод «Бабруйсксельмаш» вымушаны спыніць сваю асноўную вытворчасць, бо энергетыкі апячаталі цэхі прадпрыемства за даўгі.

Завод завінаваціўся за электрычнасць 1 мільярд рублёў. Грошай у прадпрыемства хранічна не хапае. Цяпер рабочыя, прыходзячы на працу, грэюцца без справы ля печак-буржуек.

## Магілёў шалее

Ужо 3 выпадкі шаленства з пачатку года зафіксаваныя магілёўскімі медыкамі. Шпіталізаваныя 7 чалавек, якія мелі кантакт з шалёнымі жывёламі, яшчэ пяцёра пацыентаў праходзяць курс уколаў.

Камунальныя службы пачалі масавы адлоў бадзяжных сабакаў і катоў, а ветэрынары ў масавым парадку робяць прывіўкі хатнім пестунам.

## Шчаслівая Ліза

У Магілёве гадавалая дзяўчынка Ліза звалілася з 9 паверху, але атрымала ўсяго толькі лёгкае сатрасенне мозгу.

Як высветлілася, пакуль бабуля гатавала абед, Ліза выйшла на балкон, ускараскалася там на крэсла, але не ўтрымалася на вышыні. Выратавалі дзяўчынку галіны дрэваў і снег.

Пасля здарэння дзяўчынку адвезлі ў бальніцу, але медыкі лічаць, што здароўю шчаслівай Лізы нічога не пагражае.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

Николай ХАЛЕЗИН

# Новая Беларусь

## Мы станем такими, какими захотим

**Каждый человек имеет право на жизнь, на свободу и на личную неприкосновенность.**

*Всеобщая декларация прав человека (ст.3)*

Прошло 5 лет, и мы с вами не заметили, как втянулись в игру, которую предложил первый в нашей жизни президент. Мы живо принялись изучать его характер и пристрастия, его достоинства и пороки. Мы реагировали на его декреты и указы; краснели от его высказываний и поступков; внимали и неистовствовали. Но мы с вами забыли о главном — о собственной жизни, о жизни в новой стране, о строительстве той страны, о которой мечтали.

### Конец иллюзий

Вот и наступило похмелье. Мы поняли, где оказались — страна заворчала очередями и закипела изголодавшейся провинцией. Любовь к вождю сменилась сомнениями и постепенно перерастает в ненависть. Рейтинг президента только за ноябрь-декабрь снизился на 11%, и роста доверия среди населения больше не будет. Все интеграционные потуги союзных глав государств, которые раньше приводили к росту популярности, ныне — забава для идиотов.

Совсем недавно средняя зарплата белоруса составляла 100 долларов, а пенсия — 40. Сегодня эти цифры снизились до 30-и и 9-и соответственно. Весна усугубит ситуацию. Правительство напечатает несколько триллионов «посевных» рублей, и остановить гиперинфляционную вакханалию не сможет никто.

«Злокачественная толерантность» белорусов, похоже, начала излечиваться. Лишь за последний месяц численность тех, кто готов выйти на улицу, чтобы защитить свои права, увеличилась почти на 10%. Причем прирост зафиксирован не за счет радикального Минска, а за счет тихой провинции.

По мере усиления эскалации власть начинает агонизировать. Что может натворить нынешний режим, лишающийся рычагов управления, сегодня не предскажет никто. Одно можно сказать точно — **в этом году ситуация изменится**. И изменится радикально. Помимо экономического, этому будет способствовать и политический кризис. На 16 мая Верховный Совет назначил президентские выборы, а 20 июля истекает срок полномочий президента, который уповает лишь на силовое решение конфликта. Подобные методы привели к падению всех просоветских режимов восточной Европы. Не станет исключением и наш.

### Уроки новейшей истории

Чтобы понять, что ждет нас дальше, нужно вспомнить отдельные моменты нашей истории последних десяти лет. Все эти годы мы одерживали победы, которые оборачивались поражениями.

**1988 год.** Белорусский Народный Фронт впервые поднял вопрос о государственном суверенитете, национальной символике и отстранении от власти КПСС. Подобные тезисы казались тогда крамольными и утопическими. Спустя всего лишь два года была принята декларация о независимости, а БНФ стал основной политической силой в стране.

**1991 год.** Весной на улицы Минска вышли десятки тысяч рабочих, требующих изгнания парткомов с территории предприятий и проведения экономических реформ. Вскоре парткомы испарились, над государственными учреждениями затрепетали бело-красно-белые флаги, а лидеры КПБ присягли на верность БНФ, опасаясь репрессий. Это был романтический период возрождения белорусской государственности. Именно тогда страна могла пойти по тому пути, который выбрали Чехия и Польша. Но для этого нужно было знать, какую же страну мы хотим построить. Подсознательно мы понимали, что обретения независимости и уничтожения компартии недостаточно для нормальной жизни, но не удосужились обсудить, **как** мы будем жить и в **какой** стране. А так как свежих идей не было, то воплощать **свою** программу принялись коммунисты, размалеванные под демократов.

**1994 год.** Псевдорыночная номенклатура всем до чертиков надоела. Вроде и атрибуты демократии присутствовали в нашей жизни, и жизнь вроде бы начала улучшаться, но что-то мешало нам, словно крошки в кровати. Этими «крошками» была ворующая номенклатура. Если сравнить те объемы воровства с нынешними, то можно сказать, что они отличаются как «карманник», шарящий в кармане пассажира троллейбуса, от «медвежатника», вскрывающего сейф национального банка. Но тогда казалось, что причина всех наших бед в этих «голубых воришках», терпеть которых белорусы больше не могли. Правда, и размышлять на тему «А что дальше?» не хотели. К тому же желание «победить» премьер-министра Кебича было настолько сильным, что проголосовали за человека, в программе которого был, по сути, один пункт — «воров пересажаем и заживем припеваючи».

**1999 год.** Мы снова победим. Победим, потому что **так жить больше нельзя**. Но спросите себя: «а не придет ли на смену одному демагогу другой? И не начнем ли мы бороться в очередной раз **против**, вместо того, чтобы один раз побороться **за**?».



### Чего мы хотим?

Каждый из нас, представляя себе государство, в котором хотел бы жить, уверен, что Беларусь такой страной стать не может. Так же десять лет назад думали и наши соседи — венгры, поляки, чехи, прибалты. Но они, в отличие от нас, боролись не **«против»**, а **«за»**. За право построить государство, в котором хотелось бы **жить**, а не **выживать**. И они добились своего, сначала построив эту страну у себя в головах, а затем воплотив эту мечту в жизнь. И нам, белорусам, стоит сначала представить, в какой стране и как мы хотим жить. А для этого стоит ответить на целый ряд вопросов.

Мы идем в ногу со всем остальным миром или выбираем свой оригинальный путь? Мы часть Европы или по-прежнему хотим оставаться под крылом России? Мы миролюбивая маленькая страна или хотим иметь в своем арсенале ядерное оружие как аргумент для достижения своих целей? Мы интернациональное государство или ярковыраженные славянофилы? Мы терпимы к различным религиозным конфессиям или хотим видеть на своей земле преимущественно православные храмы? В конце концов, мы открытое общество или нам нравится жить за «железным занавесом»?

И если мы хотим жить в открытом обществе, то перед нами встает целый ряд других вопросов, требующих ответов.

Мы за институт президентства или за парламентскую республику? Пора ли нам вводить частную собственность на землю? Хотим ли мы введения судов присяжных? Какими мы хотим видеть милицию и спецслужбы? Готовы ли мы отказаться от применения смертной казни? Нужны ли нам профессиональная армия и альтернативная воинская служба? Как реформировать системы образования и здравоохранения? Что мы можем сделать для инвалидов, чтобы они не чувствовали себя обделенными? Как добиться того, чтобы пожилые люди, выходя на пенсию, могли вести достойную жизнь?

Очевидно, что реформированию должны быть подвергнуты все области жизнедеятельности: от институтов власти до отдельных субъектов хозяйствования. Понятно и то, что все они должны находиться под жесточайшим общественным контролем.

Мы обязаны, наконец, сделать выводы из наших побед, ставших нашими поражениями. Нам необходимо обсудить на страницах газет, каким путем пойдет наша страна после того, как нынешний президент покинет свой пост.

Среди нас есть много тех, кто не видит себя в политике, но является профессионалом в какой-либо области. Их мысли и идеи необходимы новой стране. Не исключено, что некоторые из них достойны занять места в новых органах власти. Посредством такой дискуссии может сложиться команда единомышленников, которая и поможет подняться нашей стране с колен.

Скажите свое слово те, кто знает, что нам делать с нашей страной!

**Газета НАВІНЫ открывает на своих страницах дискуссию под рубрикой «НОВАЯ БЕЛАРУСЬ». Если вам есть что сказать о строительстве нового государства; если вам не безразлично, в какой стране мы будем жить; если вы знаете, как реформировать органы власти или отдельные отрасли жизнедеятельности — пишите. Наиболее интересные статьи, проекты и мысли мы обязуемся донести до читателей нашей газеты.**

# Кому не дал бог, у того отнимут чиновники

В этом мире никто не застрахован от болезней и несчастья. Но самая большая беда обрушивается на людей, если печатью болезни и несчастья помечены их дети, если это несчастье роковое — обрекающее ребенка на пожизненные страдания. Ребенок-инвалид или ребенок с патологией психофизического развития — трагедия. Родители не могут дать своим детям то, что не дала им или исказила в них природа. Мать и отца таких детей всегда ужасает мысль о том будущем времени, когда их дети станут взрослыми, окажутся один на один со своей бедой — без родительской заботы и брошенные на произвол судьбы государством. Потому что государство в облике своего институционально уполномоченного министерства образования уже сейчас сворачивает свою заботу о несчастных до минимума.

Родители 70 таких детей прислали в редакцию НАВІНаў коллективное письмо. Они пишут: *«Мы дважды обращались к Президенту Лукашенко А.Г., но ответа и помощи не дождались». «На приеме в администрации Президента 29 декабря 1998 г. у тов. Гурина В.В. мы не были услышаны».*

Обращение в рядовые чиновные инстанции — управление образования Минского горисполкома получило ответ, который подписал начальник управления Г. Петрович. Об этом ответе родители 70 детей отзываются так: *«Нас возмутила и очень расстроила отписка руководителей управления образования, в которой все перевернуто с ног на голову. А за промахи и упущения в их работе должны отвечать родители и их больные дети».*

В чем суть конфликта, который не захотела разрешать администрация президента РБ? Родители 70 детей, которые обучаются (понедельно находятся) в школе-интернате № 8 для детей с особенностями психофизического развития и детей-инвалидов, опротестовывают решение Минского горисполкома № 1272 от 2 декабря прошлого года, которое отбирает дом у одних детей-инвалидов и передает другим детям — сиротам и сиротам-инвалидам. Прежний контингент учащихся интерната частично переводится в школу-интернат № 11, но в качестве «приходящих классов» (то есть приводимых за руку родителями или бабушками). Родители пишут, что «приходящая» форма обучения в интернате № 11 для их детей неприемлема, потому что имевшие место эксперименты с приходящими детьми имели печальный или трагический исход (одна девочка-инвалид по дороге в школу погибла под колесами автомашины; ученик 7 класса, возвращаясь из школы домой, заблудился, более суток был в розыске и чуть насмерть не замерз на улице; малое понимание реальности легко превращает детей в жертв малолетних преступников). Интегрированное обучение (совместное, в одном здании и на одном этаже) в школах со здоровыми (физически) детьми все больные дети и дети-инвалиды вспоминают с ужасом (здоровые сверстники их били, оскорбляли, унижали и т. п.).

Родители спрашивали управление образования Мингорисполкома, кто и на каком основании позволил коммерческим структурам приватизировать отнятое у детей-сирот здание школы-интерната № 4, а также детские сады № 208 и № 415, где могли быть размещены с полными удобствами те дети-сироты и сироты-инвалиды, которых управление образования спланировало поместить в здании школы-интерната № 8. В случае такого разумного решения не пришлось бы разрушать стабильность коллектива учащихся, которые учатся в интернате № 8. Для этих де-

*(Окончание на стр.5)*

# Беларусь – наш беларускі дом

**Праграмная заява старшыні БНФ**

**Зянон ПАЗЬНЯК**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, спаўняючы Канстытуцыю, аб'явіў выбары прэзідэнта. Гэтая пастанова канстытуцыйная з пункту гледжання права і не супярэчыць закону. Яна правамоцная ў існуючых абставінах.

Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» дзейнічае па Канстытуцыі і кіруецца канстытуцыйнымі законамі. Зыходзячы з гэтага, Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» прымае ўдзел у выбарах і прапанаваў мне выставіць сваю кандыдатуру на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Гэтым паведамленнем сведчу аб сваім рашэнні прыняць удзел у выбарах у якасці кандыдата на пасаду прэзідэнта Беларусі і лічу патрэбным сказаць наступнае.

Стварыць нармальную беларускую ўладу, якая б выяўляла і абараняла інтарэсы беларускай нацыі, у цяперашніх абставінах практычна вельмі цяжка, пакуль Беларусь застаецца прэзідэнцкай дзяржавай з прыярытэтам прэзідэнцкіх правоў. Досыць прэзідэнцтва! Улада павінна быць збалансаваная на прынцыпах парламенцкай рэспублікі, дзе функцыі прэзідэнта абмежаваныя, ураўнаважаныя парламентам, альбо адсутнічаюць зусім.

Стварыць нармальны беларускі парламент, які б быў дэмакратычны і зыходзіў з беларускіх нацыянальных інтарэсаў, у існуючых абставінах нерэальна, паколькі ён будзе выбірацца па мажарытарнай сістэме. Павінна быць прапарцыйная альбо змешаная сістэма выбараў.

Гэтыя два пытанні можна вырашыць уладнымі метадамі знутры. Ініцыятарам жа змянення прэзідэнцкай улады павінен стаць прэзідэнт.

Я лічу, што трэба стварыць канстытуцыйныя ўмовы для ліквідацыі антыбеларускага рэжыму і выкарыстаць іх дзеля вызвалення ад дыктатуры.

Прыняўшы рашэнне аб удзеле ў выбарах прэзідэнта, аб'яўленых Вярхоўным Саветам, я зыходжу з палітычнай неабходнасці такога кроку і з рэальнасці перамогі на выбарах.

Цяперашняя ўлада ў Беларусі ўтварылася на нянавісці, матэрыялізме, савецкім рэваншызме і ашуканстве. Апора была зробленая на прымітыўную свядомасць. З яе глыбіняў на паверхню выцягнулі і легалізавалі самыя цёмныя інстынкты, заганы, азлобленне, зайздрасць, эгаізм, агрэсіўную непавагу да нацыянальных каштоўнасцяў і духоўных ідэяў.



Але нянавісць не стварае. Прымітыўнае не спараджае дасканалага, ніхкае — вялікага, а здрада — веры. Відаць, шмат каму спатрэбіліся пяць пакутных гадоў панікжэння, каб зразумець гэтыя простыя ісціны.

Мы павінны вярнуцца да нашых традыцыйных беларускіх духоўных здабыткаў, да ўпэўненасці ў сабе, да праўды, выпрабаванай гісторыяй.

Нашым найвялікшым нацыянальным дасягненнем з'яўляецца нашая дзяржава. Страта дзяржавы, яе незалежнасці ёсць страта саміх сябе. Ніякія планы аб нармальным жыцці, нават толькі матэрыяльныя, нават самыя простыя, нельга ажыццявіць, не маючы сваёй дзяржавы, свабоды і незалежнасці.

Нашым найвялікшым нацыянальным сведчаннем, найвялікшым дасягненнем і сродкам культуры ёсць нашая беларуская мова. Калі мы хочам застацца жывым народам, мы павінны дзяржаўна яе шанаваць.

Тыя, хто да 1995 года бясконца ёрнічаў і шыпеў на беларускі сцяг, тыя, хто дэманстратыўна высмейваў за абарону сцяга, як за нязначную справу, Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» («ім бы толькі флажкі»), тыя, захапіўшы ўладу, першае, што зрабілі, — адмянілі, парвалі, зганьбілі нацыянальны сцяг і... трапілі ў нашае сэрца. У сэрца — бо правялі фальшывы, незаконны, скамарошы рэферэндум, каб прынізіць народ. І прынізілі.

За сцяг нармальныя людзі ахвяруюць жыццём, бо гонар важнейшы за смерць. Пасля ліквідацыі дыктатуры, у той жа дзень, будуць вернутыя нашыя святыя беларускія сімвалы: бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня. Мы вернем іх на пасад урачыста пад перазвон званоў, малітвы і песні. Мы вернем іх навечна.

Пасля ліквідацыі дыктатуры мы адразу адновім беларускія школы, садкі, ліцэі, усю асвету і адукацыю. Мы спынім акупацыйную дыскрымінацыю па беларускай мове і міліцэйскі разбой. Мы падтрымаем таксама нацыянальныя меншасці і іхнія моўна-культурныя інтарэсы.

Будзе адроджаная беларуская вышэйшая адукацыя і беларуская навука, паднятыя прыярытэт настаўніка і вучонага, бо адукацыя і інтэлект ёсць цяпер найвышэйшая вытворчая сіла. Будучыня належыць разумным.

Збудаваўшы храм беларускі ў душы, мы зможам збудаваць нацыянальны дабрабыт і нацыянальную эканоміку. Без народнай салідарнасці, без нацыянальнай свядомасці, без духоўных традыцыяў эканамічныя планы — міраж, марныя спадзяванні.

Каб мець хлеб — не хлеба мусім шукаць, а Беларусі, не каўбасы, а Бога. Што такое эканоміка без маралі — паглядзіце на ўсход, на Расію. Гэта тое, на што нельга стаць падобнымі.

Багатая краіна тая, дзе багатыя людзі. Нашая эканамічная палітыка будзе накіраваная на тое, каб беларус багацеў. Усім будзе гарантавана працаваць, вытвараць, прадаваць і купляць. Будзе ўведзены стымуляцыйны прынцып вызвалення ад падаткаў, сістэма льготных падаткаў і рацыянальная сістэма падаткаабкладання, накіраваная на развіццё і хуткі ўздым індывідуальнай працы і прадпрымальніцтва.

Пенсіянер, памятай! Калі побач з табой у выніку разумнай энергічнай працы ў вытворчасці ці ў гандлі разбагацеў сусед, ён не вораг табе, не «крывасмок», не «жульё», а прыяцель. З свайго даходу ён плаціць падаткі ў бюджэт, а з бюджэту — табе пенсія.

Беларусам трэба ўмець не толькі працаваць, але і арганізоўваць працу, ствараць вытворчасць, кіраваць прадпрымальніцтвам, гандляваць і лічыць грошы. Інакш — багацце не ствараецца. І калі з'яўляюцца такія ўмелыя людзі ў грамадстве — радуйцеся.

Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» мае ўстойлівую эканамічную праграму развіцця Беларусі і шэраг надрукаваных законапраектаў. Яны шмат каму вядомыя. Таму я не буду на іх спыняцца. Тым больш, што няма сэнсу гаварыць пра эканоміку, калі не казаць пра Беларусь.

У эканоміцы мяне клапоціць перш за ўсё людзі, бо без людзей, ці абы з кім, ніякія эканамічныя праграмы не рэалізуеш. Мы павінны будзем вельмі ашчадна адносіцца да кіраўнікоў і спецыялістаў вытворчасці — было б жаданне працаваць.

Галоўная сфера — сельская гаспадарка. Гэта наш грунт і важная крыніца багацця. Калгасы могуць быць пераўтвораныя ў рынкавыя гаспадаркі з вялікай свабодай дзеяння і спрыяннем з боку дзяржавы. Абаперціся тут можна толькі на тых сельскіх людзей, што ёсць. (На працаўнікоў, кіраўнікоў, спецыялістаў.) Іншых няма. Таму рэформы павінны быць для людзей, а не для рэформаў.

У пачатку 1997 года, напярэдадні авантуры з руска-беларускай «інтэграцыяй», кожнаму «вертыкальнаму» начальніку ў кабінет быў разасланы мой ліст, дзе ўсіх заклікалі супрацьдзейнічаць анексіі Беларусі. Было падкрэслена, што захаванне патрыятычнай беларускай дзяржаўніцкай пазіцыі ўлічыцца пасля ліквідацыі рэжыму; гарантуецца праца і пасада. У тым ліку будуць ліквідаваныя дасье. Цяпер я магу толькі пацвердзіць сур'ёзнасць намераў, выкладзеных у тым лісце. І шкада, што некаторыя аднесліся да яго няўважліва. Зрэшты, яшчэ не позна.

Тры гады палітычнай дзейнасці на Захадзе шмат высветлілі для мяне: што такое Захад, што варта пераймаць, а чаго нельга. Мы, беларусы, народ еўрапейскай гісторыі і культуры. Нам трэба аднавіць моцную, культурную і заможную Беларусь, пабудаваць наш крэпкі Беларускі Дом. Калі мы будзем гэта рабіць нават мінімальна разумна, то Захад нас падтрымае. І ніхто не стане пры гэтым пагражаць нашаму суверэнітэту і нашай незалежнасці. Калі ж мы паставім сябе несамавіта, зглумім сваю культуру і эканоміку і дазволім, як у Расіі, усё раскрадаць, мы ў лепшым выпадку станем спажыўцамі заходніх адкідаў вытворчасці ды мас-культуры і будзем глядзець, як нашымі дочкамі камплектуюць заходнія бардакі.

Мы не пацягнемся ў Еўропу галоднымі і не пойдзем пакрыўджанымі. Беларусь будзе такой, як мы зробім. Мы станем гаспадарамі, а не збяднелымі родзічамі. Нашая беларуская дзяржава ёсць наш Дом, наш Храм і нашая Крэпасць. Калі мы ўмацуем яе нашым розумам і працай, мы пачнем сябе паважаць.

Беларуская замежная палітыка мусіць зыходзіць з беларускіх нацыянальных інтарэсаў. Мы спынім усе спробы з боку Расіі анексаваць Беларусь і навязваць нам свае «садружнасці» ды «саюзы». Але мы не зачынім расіянам дарогу на Захад і ўлічым іхныя інтарэсы пры ўмове павагі да нашай краіны і нормаў міжнароднага права.

Шмат страціла Беларусь за пяць гадоў прамаскоўскага рэжыму. Спатрэбіцца час, каб істотна палепшыць гаспадарку і эканамічны стан у дзяржаве. На месцы стаяць — немагчыма, бо ідзе разбурэнне. Калісьці ў пачатку 90-х гадоў антыбеларуская прапаганда мне закідала: «ён хоча зрабіць як у Польшчы». Што сталася потым у Польшчы — вядома. Толькі Польшча для нас слабы прыклад. Мы самі можам стаць прыкладам для іншых. Дзеля гэтага трэба, здавалася б, няшмат — павярнуць у сябе, у сваю нацыю, у свае магчымасці, у сваю дзяржаву, у Беларусь.

## Зварот да выбаршчыкаў

***По ўсёй Беларусі разгарнулася перадвыбарчая кампанія па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, прызначаныя Вярхоўным Саветам на 16 траўня 1999 года. Ва ўсіх раёнах сфармаваныя раённыя выбарчыя камісіі, дзейнічае Цэнтральная Выбарчая Камісія на чале са сп. Віктарам Ганчаром, адбываецца вылучэнне кандыдатаў на пасаду прэзідэнта. Цэнтральнай Выбарчай Камісіяй зарэгістраваная ініцыятыўная група па вылучэнні сп.Пазьняка Зянона Станіслававіча кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь.***

***Каго хвалюе лёс Бацькаўшчыны, хто шануе закон і справядлівасць, мы заклікаем уключыцца ў працу і дапамагчы ініцыятыўнай групе сп.Пазьняка З.С. Просім звяртацца на адрас: 220005, Мінск, вул.Варвашэні, 8, тэл. 284-50-12.***

*Кіраўнік ініцыятыўнай групы*
**С.ПАПКОЎ**

